(Праця̆г са стар. 1)




рознай керамікі, а таксама некалькі дзесяткаў графічных работ. Многа іх мастак не паказаў на выстаўцы: яны расстаўлены па ўсіх кутках ды развешаны па сценах яго кватэры, затаіліся ў скромненькай майстэрні, абсталяванай на панадворку ў нейкай ні то летняй варывеньцы, ні то ў хлеўчыку.

І ва ўсім гэтым багацці кампазіцый я адкрываю нейкае натхненне прыроды, па-свойму арыгінальна пераўвасобленае мастаком. Здаецца нават, што ў гэтым свеце пошукаў і эмоцый яго спачатку захапляе пэўная форма з акружаючай рэчаіснасці. Ён сваім разцом дабывае з яе на першы план вымову канкрэтнай ідэі, як напрыклад, ідэю дасканаласці натуры ў з піетызмам вырэзбленых мініяцюрах жабак, розных птушак і звяркоў. Потым дабытая з натуральных форм ідэя выходзіць па-за іх межы і набывае новую, дадзеную ёй ужо мастаком постаць. Такое пераўвасабленне выразна заўважаецца ў невялікай скульптуры, вырэзбленай з ліпавага дрэва „Птушка", а таксама ў фігурцы „Скупы". І хіба ж не выпадкова на выстаўцы гэтая апошняя знаходзілася побач з працай „Маці-карміцелька". Тут над разцом мастака паўстала постаць бабулькі з місай у выцягнутых наперад руках. Усё ў ёй надта ж свойскае, падляшскае — і вопратка, і міса, і спосаб завязвання хусткі і нават рысы твару, а тхне ад яе спакоем, развагай, добразычлівасцю. Іншае знаходзім у „Скупым". Пакарэжаная прагавітасцю постаць перарастае ў нейкую агідную пачвару, што страціла чалавечыя абрысы. Неабходна заўважыць, што ператварэнне натуральных форм у новыя кампазіцыі наступае не шляхам рэзкіх зменаў у творах прыроды, не вульгарным крэмзаннем іх, як гэта робяць некаторыя мастакі. У працах В. Шума адчуваецца добрае веданне структур розных форм прыроды і глыбокая пашана да яе. Яго новыя формы з'яўляюцца натуральным, лагічным працягам навакольнай рэчаіснасці. Асабліва выразна гэта відаць у яго дыпломнай працы — манументальнай скульптуры „Праметэй", у якой верхняя частка постаці адзінага старажытнагрэчаскага бога, бязмежна адданага людзям, пераходзіць у нейкую фантастычную структуру, быццам у застыўшую ў сваім нараджэнні незвычайную раслінную форму, ці рэштку пасля жудаснага пажару або выпарвання ад ядзернага выбуху. Гэтая ўлюбёнасць у навакольную рэчаіснасць заўважальна і ў барэльефе „Грыбы-плюскі", дзе сілуэты вядомых кожнаму з нас грыбоў набываюць нейкі паглыблены філасофскі сэнс, выклікаюць задуму над незвычайнасцю і мінімальнасцю існавання. Так можна было б у бясконцасць, бо кожная праца мае свой змест.



*Барэльеф „Грыбы-плюскі" Вячаслава Шума.* *Фота Рыгора Жура*

Гэтая вымова не страціла і ў кераміцы В. Шума. І ў цікавых формах, і ў пераліўістых барвах усіх гэтых кубкаў, чараў, флаконаў, збаноў, місаў відаць не толькі далікатнае адчуванне прапорцый, гармоніі, але і нейкая спецыфічная ўлюбёнасць у натуральныя лініі.

Асабісты мастацкі почырк ёсць і ў надта разнастайнай па зместу, форме і тэхніцы выканання графіцы мастака. Тут бачым вельмі ўдала зробленыя „Грыбы", „Макаўкі", „Чаплі ў чароце", „Гусі за плотам", „Вербы над рэчкай Каменкай" і іншыя рэалістычныя замалёўкі з натуры, і насычаныя філасофскім зместам кампазіцыі „Крыгі на Бузе", „Багно ў змроку", „Кветкі марозу" і ім роднасныя, дзе, як напрыклад, у „Адзінокім дрэве" ці „Калоссях ячменю", глыбіня ідэі пакарае прадстаўлены аб'ект. Але ўсюды, і ў абстрактным „Пейзажы не з гэтай зямлі", а нават у „Прамысловых абстракцыях" пульсуе жывое жыццё.

І ўсё ж В. Шум не знаходзіцца ў палоне прыроды: ён не яе нявольнік, але пераўтваральнік, творца новага. Гэтаму доказ нават і тое, што ён пазбягае ўзорыстай фактуры, любіць ствараць з абсалютна чыстых і аднародных матэрыялаў, каб быць цалкам незалежным, даваць ім форму і фактуру паводле свае задумы. І яшчэ адна, бадай вядучай важнасці рыса яго творчасці — незвычайная працавітасць і скрупулёзнасць, даведзеныя да дасканаласці. Калі глядзіш на гэтыя выпеставаныя працы, то аж не верыцца, што яны — плод чалавечых рук!

Відаць, гэтай заўзятасці і настойлівасці ў ажыццяўленні сваёй задумы навучыла В. Шума жыццё. Яго мастацкія здольнасці выявіліся яшчэ ў пачатковай школе. Аднак экзаменацыйная камісія ў Супрасльскім мастацкім ліцэі не заўважыла іх, і хлопцу давялося паступіць вучыцца на агранома ў Чартаеўскі сельскагаспадарчы тэхнікум. Там яго мастацкія дараванні і ўменні дастаўлялі яму адны пакуты, бо трэба было бясконца рыхтаваць розныя насценгазеты, плакаты, выстаўкі, дэкарацыі залаў, урачыстых пасяджэнняў, матуральных вечарын і г.д. Але з тэхнікума ён вынес вялікую каштоўнасць — наблізіўся да прыроды. І гэта адразу пачало выяўляцца ў яго цудоўных біямарфічных і заамарфічных кампазіцыях, якіх рэзбленню ён прысвячаў увесь свой вольны ад вучобы час і ў якіх знаходзіў асалоду пасля цяжкіх і горкіх паражэнняў на ўроках у часе адпытвання ці ў кантрольных працах. Падтрымоўваў яго ў цяжкія хвіліны на духу сямяцiцкі жывапісец Рышард Бжэскі. І з дасканалым вынікам. У мінулым годзе, ужо са значнымі дасягненнямі і дваццацівасьмігадовым, поўнасцю сфармаваным мужчынам Вячаслаў Шум закончыў Мастацкую акадэмію ў Кракаве. Вярнуўся дадому ў Сямяцічы і тут цалкам аддаўся свайму мастацтву.

І не дзіва, што з такім піетызмам ён захоўвае кавалак пасвідраванай мурашкамі старой елкі, цяжкі камяк заіржавелага метэора і пашчэрбленыя крамённыя прылады першабытнага чалавека, што знойдзены недзе ў ваколіцы вёсак Каянкі і Рогаўкі — мясцін, з якіх паходзяць бацькі мастака, бо сам ён — пясняр Надбужжа.

**М. Гайдук**

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ.**
**СТАДЫІ Ў ЖЫЦЦІ ЧАЛАВЕКА.**

# Роды

Першай фазай абрадаў, звязаных з нараджэннем чалавека, з'яўляюцца роды. Згодна з доказамі Карскага, характэрным былі для іх адсутнасць песеннага фальклору, праходзілі яны ў атмасферы цішыні і павагі. Павагу гэтую паглыблялі шаптанні і магічныя дзеянні, выконваемыя прысутнымі пры гэтым жанчынамі, а перш за ўсё бабкай-акушэркай. Мужчыны ў родах удзелу не прымалі, яны або ўвогуле выходзілі з хаты, або іх закрывалі ў другім пакоі. Хаця ў „Гісторыі беларускай літаратуры" (частка I, Фальклор) Аляксандр Баршчэўскі піша: „Выключнай паэтычнасцю адзначаўся абрад, апісаны Карскім. Вучоны гаворыць, што ў некаторых раёнах Беларусі муж цяжарнай жанчыны імкнуўся ўзяць на сябе частку болю, звязанага з родамі, лягаў у ложак і стагнаў і енчаў". Сёння можна сказаць, што роды ўжо поўнасцю пазбаўлены ўсялякіх абрадаў. Абраднасць, звязаная з гэтай стадыяй у жыцці чалавека, памерла сваёй натуральнай смерцю. Бытавала яна толькі датуль, пакуль дзеці радзіліся дома ў прысутнасці бабкі. Зараз гэта ўжо толькі ўспамін. А яшчэ ж гадоў дзесяць таму назад абрады гэтыя былі тым самым, што зараз хуткая дапамога, лекар, працэдуры.

Вяртаемся ў мінулае. Родзіцца дзіця. Прымае бабка. Роды цяжкія. Адна з прысутных жанчын развязвае знаходзячыеся ў хаце вузлы, размотвае клубкі, расплятае косы. Згодна з перакананнем мае гэта прынесці палёгку родзячай, сімвалізуе атмасферу поўнай унутранай разрадкі. Калі гэта не памагае, клічуць мужа, які знаходзіцца найчасцей у поўнай гатоўнасці, і пасылаюць у царкву, дзе бацюшка адпраўляе модлы і адкрывае царскія дзверы. Мела гэта спрыяць пасляховасці родаў.

Як мы ўжо адзначалі ў папярэднім нумары нашага цыкла, цяжарная жанчына, апрача таго, што мела ўплыў на акружаючых яе людзей, была адначасова сама падатная на ўплыў розных злых моцаў, што адмоўна ўплывала на будучае дзіця. І таму ў час родаў перад тварам жанчыны запальвалі грамнічную свячу. Тут падвойная дапамога. Агонь у жыцці быў божаскай сілай, а нават самім богам. Меў ён ачышчаючую моц. Нават яшчэ сёння ў расказах старых людзей спатыкаецца ўспамін, што быццам бы ўсе памёршыя малымі дзецьмі (зразумела, хрышчаныя) ідуць у рай і заменьваюцца ў анёлаў, але толькі тады, калі пройдуць праз агонь. Другой справай было тое, што грамнічная свяча гэта свяча свянцоная і адначасова праз гэта не дапускае злых моцаў. Трымалі яе перад тварам таму, што бытуе ў народзе перакананне аб тым, што злая сіла ўваходзіць у чалавека якраз праз твар — вочы, рот, нос. Агонь і грамнічная свяча якраз і мелі выконваць тую ролю, каб не дапускаць гэтай злой сілы да чалавека, у гэтым выпадку да родзячай жанчыны. Падтрымкай сказанага з'яўляецца хаця б тое, што ў час навальніцы, каб не ўдарыў у хату гром, ставілі ў акне грамнічную свячу. Згодна з перакананнем, гром біў туды, дзе скрывалася злая сіла.

Нарадзілася дзіця. Бабка-акушэрка завязвала пупавіну. Памалу прыступалі да купання. Выняўшы з вады нованароджанае дзіця, загортвалі яго, калі дзяўчына — то ў мужчынскія нагавіцы, калі хлопец — у фартух або спадніцу, каб яно мела поспехі ў каханні. Адначасова давалі ў руку нейкую прыладу, сімвалізуючую лёгкае жыццё, багацце. Найчасцей быў гэта аловак. Выкупаўшы, загарнуўшы і палажыўшы дзіця побач з парадухай, сядалі частавацца. Налівалі бабцы ў шклянку гарэлкі і тая, выпіваючы, складала пажаданні бацькам і дзіцяці ды абяцала апекавацца ім аж да хрысцін.

Можа яшчэ некалькі слоў пра пупавіну. Праз нейкі час яна адпадала. Бацька хаваў яе і, калі дзіця падрасце, даваў развязваць. Калі яно развяжа, дык значыць будзе сабе поўнасцю радзіць у жыцці. На гэтым абраднасць, звязаная з родамі, канчалася. Наступным перыядам было рыхтаванне да хрысцін.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**




# Злавіў

Як усё дзіўна ў гэтым жыцці бывае! Невядома, што, дзе і калі. Тут радасць — хоць ты поўнымі жменямі пхай у кішэні, то зноў награне такое, што душы, здаецца, не чуеш і толькі дурныя думкі ў галаву прыходзяць ды бяссільная злосць у сэрцы кіпіць. Жыццё — мастак сітуацыі. Так як бы сядзела яно пры шахматным полі і перастаўляла людзей нібы фігуркі. Так...

Час аднастайна тупаў зграбнымі стрэлкамі па цыферблаце прывакзальнага гадзінніка. Некалькі хвілін — на перон уляцеў засопшыся цягнік. Лена чакала мужа, які вяртаўся з месячнай камандзіроўкі. Месяц часу не бачыліся, адны толькі пісьмы, якія пачалі рабіцца нейкімі манатоннымі. Вяртаючыся праз парк, размаляваны восеньскай рукою, хутка папаўнялі сваю адсутнасць — што дома, як было ў камандзіроўцы.

— Нічога асаблівага, так як дома, — паведамляла Лена. — Некалькі начэй падрад суседка начавала, бо Юзік зноў пасудзіну падлічваць пачаў, то зноў потым нашы з вёскі прыехалі. І так неяк. А ты?

— Ну, ведаеш, так як у камандзіроўцы. Адпачыць не адпачнеш, але і перапрацавацца не перапрацуешся.

Уздымаючы з алеек асыпанае лісце ды перакідваючыся словамі, ішлі яны ў напрамку сваёй хаты, але раптам:

— Добры дзень, — глыбока махнуўшы перад сабой знятым капелюшом, нехта пакланіўся ды, адышоўшы, яшчэ некалькі разоў агляну ўся. Можа падвыпіўшы, можа не пазнаў. Лена нібыта крышку збянтэжылася, нібыта са здзіўлення паціснула плячыма і глянула на Колю так, быццам бы шукала ў яго паяснення, што гэта за ён, моў?

— Хто гэта? — спытаў Коля.

— Першы раз бачу, п'яны мо нейкі, ці не пазнаў.

— Ну, ну, незнаёмай так кланяцца не будзе, а не прыпамінаю, каб гэта нехта быў з нашых супольных знаёмых.

— Дальбог, не ведаю яго.

— Дык гэта так, я ў камандзіроўку, а ты тут гуляеш?! А я, дурны, табе верыў. Хто гэта?

— Не ведаю.

— Скрывай не скрывай, і так даведаюся, валацуга ты.

— Дык суседкі папытайся, хай скажа, ці я куды хадзіла?

— А навошта ж хадзіць, калі да цябе прыходзілі? Лепшага ж тут доказу не трэба.

— Я ж таксама магла б падумаць аб табе, як во тая бландзіначка заходзіла.

— Так!? Гэта ж школьная сяброўка, што ты тут мяшаеш?

— А па-сяброўску то не маглі...? Чаго ты прычапіўся? Месяц не было і зноў са сваімі падазрэннямі.

— Бо маю доказы і лепшых не трэба. Не бойся, незнаёмы кланяцца не будзе. Тут ужо яўна відаць.

І так слова па слове напружанасць ўзрастала. Дайшлі да хаты. Назаўтра тое самае. На паслязаўтра яшчэ горш. Коля штораз пазней вяртаўся з работы, скандаліў. — Я сваю яўна дапільнаваў, — хвастаўся суседзям, падвыпіўшы. — Так жа не кланяюцца абы-каму.

А тут можа проста чалавеку было радасна ў гэты дзень. Ішоў ды кланяўся ўсім па чарзе. Мала то чудакоў на свеце ёсць. О, жыццё — мастак сітуацыі!

**Міхась Шаховіч**

### БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

*Не плаціць багаты, а вінаваты.*

*Пазнаеш пана па халявах.*

*Прывык у мутнай вадзе рыбу лавіць.*

*Пугай абуха не перашыбеш.*

*БЕЛАРУСКІ МУЗЫКАЛЬНЫ АГЛЯД-78*



*Іграе Грыгор Рэпка з Чаромхі.*
*Фота М. Гайдука.*

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# Людзі, слаўныя працай

У прыгранічнай вёсцы Старына (гміна Дубічы-Царкоўныя) добрымі гаспадарамі з'яўляюцца: Васіль Хмель, Пётр Казачук, Шымон Патэйчук, Уладзімір Богунь, Мікалай Кубай і інш. Іх можна паставіць ва ўзор. Гэта перадавікі ў сваёй вёсцы. У іх за плячыма багаты вопыт работы.

Мікалай Кубай гадуе 8 штук быдла і з дзесятак свіней. Сёлета прадаў тры кантрактаваныя кормнікі і 4 падсвінкі. У мінулым годзе прадаў дзяржаве 5 тон бульбы.

Старынскі хлебароб чакае новага трактара. Ён намерыўся павялічыць сваю гаспадарку на некалькі гектараў поля і зялёных угоддзяў.

Уладзімір Богунь з хутара вёскі Старына гадуе дзевяць кароў, у тым ліку 4 дойныя, двое коней. Ён клапоціцца пра багатую запраўку глебы і мае добрую аддачу. У мінулым годзе ён прадаў дзяржаве 10 тон бульбы „Флісак" і тону жыта. Прыкладае нямала сіл і старання, каб вырасціць добры ўраджай на арандаваных ад дзяржавы 2,5 га зямельных угоддзяў. Пад бульбу адводзіць сама менш 2 гектары.

Да злеўні ў Войнаўцы Уладзімір Богунь дастаўляе 14 400 літраў высакаякаснага малака ў год. Пры даенні карыстаецца электрадаілкай.

У 1967 годзе ён пабудаваў абору і разбудаваў стадолу. У мінулым годзе ён, яго жонка Аляксандра і сын Уладзімір здалі экзамены на званне кваліфікаванага гаспадара. Усе яны любяць працаваць на гаспадарцы і таму дабіваюцца поспехаў. (яц)

ГМІННЫЯ НАВІНЫ

# У кааперацыі – лепш

Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы мае вялікія поспехі ў жывёлагадоўлі. У мінулым годзе купіла яна ад сялян 900 парасят і прадала дзяржаве 230 тон мяса. СКР мае такіх каапэрантаў, якія прадаюць для далейшай гадоўлі па 50, а нават і па 100 парасят. Найбольш з вёсак Ліпіны, Навасады, Трывежа і Стары Корнін.

У Дубінах заканчваецца пабудова тучарні для батарэйнай гадоўлі на 2000 месц. Ужо знаходзіцца ў ёй 1000 парасят, купленых у кааперантаў. У апошні час падрыхтавана дакументацыя на мадэрнізацыю існуючай паспулдзельчай аборы таксама ў Дубінах. У ёй будуць спецыяльныя загарадкі для сотні свінаматак.

Многія сяляне ахвотна кааперыруюць з гайнаўскім СКРам таму, што ён дапамагае забяспечыцца кармамі, а таксама высылае да гадоўцаў заатэхнікаў і ветэрынараў, якія даюць на месцы ўсе неабходныя парады. Калі хто прадае большую колькасць парасят, тады СКР запэўнівае для перавозу іх уласныя сродкі транспарту. Селянін не мусіць ужо ездзіць з парасяткамі на рынак. Найбольш пастаянным і салідным пакупніком з'яўляецца СКР. (яц)

Весткі з Беластока

## ЯШЧЭ АДНА ГАСЦІНІЦА

Вялікі горад не можа абысціся без добрай гасцініцы. Беласток мае замала начлежных месц. Таму распачалася пабудова эфектоўнай 12-павярховай гасцініцы „Орбісу" па вул. Ю. Мархлеўскага. Будзе ў ёй звыш трохсот месц у 200 пакоях. Апрача таго, у гасцініцы будзе рэстаран, кафейная, дэвізная крама, бюро „Орбісу". Усе памяшканні будуць мець высокастандартную аддзелку: шпалеры, мазаіку, панелі і інш. Новая гасцініца будзе перададзена ў карыстане пасля 1980 года. (яц)

ці ведаеце, што...

...самыя актыўныя солтысы ў гміне Заблудаў гэта: Ян Даніловіч, Павел Марчук, Уладзімір Бараноўскі, Ірэна Скалэцкая, Мікалай Лукашук, Вітальд Мінько, Браніслаў Кандрацкі, Антон Васілюк, Вінцук Далжынскі і Зыгмунт Шыманюк. (яц)

ФАЛЬКЛОР

ВЯСЕЛЬНАЯ




*Рассцілаецца, развіваецца і ў гародзі зеллечко,*
*у гародзі зеллечко,*
*пачынаецца, пачынаецца у Марысі вэселечко.*
*у Марысі вэселечко,*
*Двор узюсенькі, збор малюсенькі, бэз родного баценька,*
*бэз родного баценька.*
*— Пашлю сакалы на ўкраіናньку па ўсюю радзінаньку,*
*па ўсюю радзінаньку,*
*а зазуленьку, жаласну пташку на той свет па баценька,*
*на той свет па баценька.*
*Сокалы лецят — весело крычат, што радзіна прыбудзе,*
*што радзіна прыбудзе,*
*а зазуленька жаласна плачэ, што баценька ні будзе,*
*што баценька ні будзе.*

Ад Агаты Палатэбнавай, 1906 года нараджэння, мястэчка Белавежа, запісаў вясной 1978 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.



Вёска Вілюкі.

# У СЛУЖБЕ ВЁСЦЫ

14 гадоў выконвае функцыю солтыса Рыгор Кудэрскі з вёскі Вілюкі, што ў гміне Дубічы Царкоўныя.

— Гэта нялёгкая праца, але дае таксама задавальненне. Найбольш мяне цешыць тое, што маю ў людзей прызнанне. Само гэта не прыходзіць, чалавек мусіць старацца, каб выканаць усе абавязкі, а іх ёсць усё больш. Для прыкладу, — у гэтым годзе дайшла зборка складчын на пенсійны фонд.

Якія змены адбываліся ў Вілюках на працягу майго салтысавання?

Перш за ўсё пабудавалі асфальтаваную дарогу, і цяпер праз вёску ездзіць аўтобус ПКС. У вёсцы разгарнулася гадоўля малочнага быдла і свіней. Найлепш гаспадарыць Пётр Саевіч (ён нядаўна купіў сабе трактар) і Уладзімір Саевіч.

А якія планы на будучыню?

Неабходна яшчэ меліяраваць урочышча „Глубучка", што каля Войнаўкі. Раней выкапаныя равы занясло. Да таго былі яны дрэнна выкапаны і вада выступала з берагоў, ды залівала зялёныя ўгоддзі.

Два гады таму назад адрамантавалі мы вясковым гуртам дарогу з Вілюкоў у напрамку лесу і сядзібы надлясніцтва Тапіла. Пачалі аднак сюдой ездзіць цяжкія грузавыя аўтамашыны „Татры" і зноў не праехаць, столькі на ёй ямаў. А ў лес па дровы ехаць трэба...

Прыдалося б у вёсцы вулічнае электраасвятленне. Ёсць два крутыя павароты і ўжо былі пашкоджанні аўтамашын, на шчасце, абыйшлося без ахвяр.

На аўтобусным прыпынку прыдалася б хаця невялічкая пачакальня, між іншым, таму, што аўтобусы не ездзяць рэгулярна.

З аднавяскоўцамі трэба будзе на бліжэйшым сходзе абмеркаваць дзве справы. Маем супольныя пасбішчы (27 га), якія неабходна рацыянальна загаспадарыць дзеля большай карысці. І другая справа: вёска мае невялічкі кавалак, паросшы альшынай (яна агульная), — ці нельга было б зрэзаць з дзесятак дрэў, парэзаць іх на штыкеты і паставіць новыя платы паабапал вясковай дарогі?

Солтыс Рыгор Кудэрскі — добры гаспадар. Мае каля 5 гектараў ворнай зямлі V і VI класа. Гадуе тры дойныя каровы (ад іх прадае 20-30 літраў малака), адну ялавіцу, мацёру, два тучнікі і пэсць падсвінкаў. На пункт скупкі завёз 600 кг сёлетняга збожжа і яшчэ прадасць яго 500 кг. Бульбы прадасць дзяржаве 5 тон. Сёлета здаў на базу аднаго вяпрука.

Тэкст і фота **Я. Целушэцкага**

АДГАЛОСКІ

# ДОТ 18 ГЕРОЯЎ

З зацікаўленнем прачытаў я артыкул Віктара Рудчыка „Дот 18 герояў" у 39 нумары „Нівы".

Рэдактар успамінае пра некаторых удзельнікаў баёў над Бугам у чэрвені 1941 года, а менавіта пра камандзіра 2-ой роты 17 ОПБ П. Я. Нядолугава, чырвонаармейца К. І. Бутэнку, а таксама лейтэнанта Малогіна Аляксандра Аляксандравіча. Апошні шчасліва вярнуўся з вайны і цяпер жыве ў Камсамольску.

Пра іншых удзельнікаў баёў над Бугам у чэрвені 1941 года я даведаўся з кніжкі „Буг в огне" (Минск, „Беларусь", 1977 год). У гэтай кніжцы я знайшоў успаміны некалькіх удзельнікаў гэтых баёў. Думаю, што зацікавяць яны многіх чытачоў, і таму хачу напісаць пра гэта.

Іван Мікалаевіч Швейкін, у чэрвені 1941 года лейтэнант, успамінае, што... „восенню 1940 года іх падраздзяленні прыбылі на граніцу з Мозыра і занялі 150-кіламетровую паласу абароны ад Брэста да мястэчка Драгічын над Бугам. Наш 18-ты асобны кулямётны батальён меў участак 30 кіламетраў..."

Пра 16-ты і 17-ты асобныя кулямётныя батальёны, якія таксама ўваходзілі ў склад Брэсцкага ўмацаванага раёна і прыкрывалі яго паласу на першай лініі абароны, пішуць іншыя ўдзельнікі баёў над Бугам.

Іван Іванавіч Змейкін, у чэрвені 1941 года лейтэнант, камандзір 2-ой роты 16-га ОПБ, піша, што абаронная пазіцыя гэтага батальёна размяшчалася на беразе Буга паміж вёскамі Крупіца і Путковіцы, уключаючы раён гарадка Драгічын і вёскі Мінчава. Пасля вайны І. І. Змейкін, які цяпер жыве і працуе ў горадзе Дзяржынску, шукаючы сваю сям'ю, быў у тых месцах, дзе давялося біцца з ворагам. Мясцовыя жыхары расказалі яму, што камандзір 16-га асобнага кулямётнага батальёна — капітан А. В. Назараў загінуў ад разрыва снарада.

Паўночную паласу Брэсцкага ўмацаванага раёна прыкрываў 17-ты асобны кулямётны батальён, якім камандаваў капітан А. І. Паставалаў.

Іван Мікалаевіч Шыбакоў у чэрвені 1941 года быў камандзірам дота „Быстрый", які ўваходзіў у склад 3-й роты 17-га ОПБ. Успамінае ён, што іх рота займала 7 агнявых пунктаў на правым флангу батальёна каля вёскі Слохі Анапольскія над Бугам.

„...На поўнач ад Слох, піша І. М. Шыбакоў, знаходзіліся доты „Безымянный" на чале з лейтэнантам, які толькі што прыбыў з вучылішча (прозвішча яго не помню), „Пчёлка" малодшага лейтэнанта І. М. Сазонава і „КІМ" малодшага лейтэнанта Н. В. Елісеенка..." Апошнія чатыры доты стаялі на ўсход ад Слох. Былі гэта... „Горный" малодшага лейтэнанта І. І. Шаўлюкова, „Холм" малодшага лейтэнанта С. Н. Зайцава, „Быстрый", якім камандаваў я, і дот „Чёрный" малодшага лейтэнанта А. В. Еськова..." Пра подзвіг апошняга І. М. Шыбакоў расказвае так:

„...Аднойчы, вылезшы з дота, непрыкметна прапоўз да шашы і залёг у канаве. Калі на дарозе паказаліся легкавыя машыны, Еськоў кінуў гранату і забіў генерала. Пасля гэтага немцы насілілі абстрэл. Іх злосць расшырылася нават на жыхароў вёскі Слохі, мужчыны якой былі расстраляны".

Пра гэта самае піша Іван Пятровіч Ваўрэнцюк, які ў час вайны пражываў з бацькамі на хутары каля Сямяціч:

„...У кюўеце шашы каля вёскі Слохі доўгі час валяліся апаленыя кузавы трох нямецкіх легкавых машын. Сярод жыхароў хадзілі слухі, што ў іх ехала высокае нямецкае начальства з генералам. Гэтыя машыны падбілі абаронцы дотаў.

На чацверты дзень вайны эсэсаўскія галаварэзы ў бешанай злобе за генерала спалілі вёску Слохі і расстралялі жыхароў, якія не паспелі схавацца. На пяты дзень яны сталі расстрэльваць жыхароў суседняй вёскі Клекаткова і паліць там дамы..."

Пра А. В. Еськова, які забіў нямецкага генерала, успамінае таксама Шань-

(Працяг на стар. 7)

## URSZULA SIPIŃSKA



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

Заказвалі дзяўчаты з Парцава.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Першы раз у жыцці прысніўся мне каляровы сон. Снілася, быццам стаю я на дарозе, дзе толькі што прайшоў дождж, а на гарызонце заходзіць сонца. Яно вось-вось павінна схавацца. Промні заходзячага сонца так ярка адлюстроўваюцца на мокрым асфальце, што ствараецца ўражанне, быццам усё патанула ў ружовым колеры. Гляджу і не магу налюбавацца гэтай прыгажосцю... а побач стаіць любімы чалавек.

Дарагі Астроне! Вельмі прашу, растлумач, калі ласка, што можа абазначаць мой сон. Чакаю твайго адказу ў наступным нумары „Нівы".

Валя з С.

**Валя з С.!** Цешыць нас тое, што пачынаюць пісаць да нас і з-за граніцы. „Jak się bawić, to się bawić"!

Ці не займаешся ты мастацтвам?! Сон твой па-мастацку прыгожы, а апрача таго, сведчыць аб тваёй маладосці (бо ружовыя сны сняцца толькі маладым), у снах старэйшых людзей найчасцей паяўляюцца зялёны, блакітны, чырвоны, чорны і белы колеры.

Сонца і неба гэта найбольш станоўчыя сімвалы радасці і шчасця. Тваё неба было чыстае пасля дажджу, бачыла ж ты на ім заходзячае сонца. Твае справы з любімым чалавекам будуць укладацца паспяхова. Чакае цябе вялікае каханне, гэта прадвяшчае табе ружовы колер сну.

**Астрон**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Е. жыве з жонкай у кватэры цесця і цёшчы. Кватэра складаецца з аднаго пакоя і кухні. Яго бацька на аснове адміністрацыйнай пастановы мае асобную кватэру. Ён хоча завяшчаннем пераказаць гэту кватэру пасля сваёй смерці свайму сыну Е. Ці гэта магчыма і што трэба зрабіць, каб атрымаць гэту кватэру?

АДКАЗ: Нельга завяшчаць кватэру, уласнікам якой з'яўляецца дзяржава. Цывільны кодэкс прадбачыць, што пасля смерці наймальніка кватэры, і ў тым ліку кватэры, якую ён займаў на аснове адміністрацыйнай пастановы, блізкія яму асобы, якія пастаянна з ім пражывалі да моманту яго смерці, робяцца наймальнікамі кватэры. Сын, безумоўна, з'яўляецца асобай блізкай наймальніку, аднак, калі ён не пражывае з бацькам, не зробіцца наймальнікам на аснове цывільнага права. Зразумела, ён можа старацца ў жыллёвым аддзеле, каб яму прызначылі гэту кватэру, але рашэнне ў гэтай справе залежыць выключна ад жыллёвага аддзела. Пры гэтым жыллёвы аддзел здае ў наймы кватэры толькі асобам, сямейнае палажэнне і жыллёвыя ўмовы якіх апраўдваюць прыдзяленне дзяржаўнай кватэры.




Дарагое Сэрцайка, з першым мужам жыла я нядоўга, ён загінуў трагічна. І асталася я з дачушкай. Страшна перажыла я смерць мужа. Захварэла з усяго гэтага, лячылася. Дачушкай заапекавалася мая мама. Яна мне памагала як магла. Час ішоў, я стала на работу. А дачушка надалей была ў мамы. Я рэдка калі і бывала ў сваёй кватэры, з работы адразу да мамы ехала, увесь час з малою гуляла, я яе кахаю за дваіх. У ёй бачу адбітак майго каханага мужа, бо яна зусім падобная на яго. Прайшло шэсць гадоў пасля смерці мужа, мне ўжо стукнула трыццатка. І пасватаўся да мяне мужчына ў маіх гадах. Спачатку я і слухаць не хацела аб замужжы. Але прыходзіў ён да мяне часта, быў ветлівы, добры, мы разам наведвалі дачушку. З ёй ён любіў забаўляцца. А ўсё ж не хацела я выходзіць, баялася, каб другі муж не крыўдзіў маю дачушку. Але і бацькі, і знаёмыя намаўлялі мяне да замужжа. Ну і выйшла. Але дзіця асталося ў мамы. Нарадзіўся ў нас сын. Ужо не магу я так часта ездзіць да мамы. Але, як толькі муж прыдзе з працы, астаўляю малога з ім і еду да дачушкі. Часам мама з ёю прыязджае. Муж нервуецца, што з хаты ўцякаю, кажа, каб дачушку забрала да сябе, хай разам дзеці гадуюцца. А я непакоюся, каб ёй не было крыўдна ад няроднага бацькі. А да бабулі яна так прывыкла, што і за мной не сумуе. Што мне рабіць, парай, Сэрцайка.

Крыся з Беластока

Крыся! Ты павінна дзіця ўзяць да сябе. То ж муж твой за тым, каб дзеці былі разам. І да дачушкі ён жа добра адносіцца, дык беспадстаўныя, думаю, твае хваляванні. Наадварот, прабываючы разам, яны больш зжывуцца. І яшчэ важная справа. Дзіця прывыкае і кіруе свае пачуцці да тае асобы, якая яго выхоўвае пастаянна. Бачыш, яна ўжо па табе не сумуе, ты ў яе ўжо на далейшым плане. Гэта будзе паглыбляцца. Бабуля ёй стане адначасова і мамай. І ёй потым прывыкнуць да цябе будзе вельмі цяжка. А калі забракне бабулі, яна пачуецца сіратой, бо страціла найбліжэйшую сабе асобу.

**Сэрцайка**



**У фотааб'ектыве.** *На купальным басейне на беластоцкім жыллёвым пасёлку Тысячагоддзя.*

*Фота Я. Целушэцкага.*




ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Апошнія грыбы



Не кожны год той самы грыб родзіць. У гэтым годзе ішлі баравікі, рыжыкі, кані, а цяпер лясныя вырубы абсыпалі апенькі, а на месцы адышоўшых баравікоў і рыжыкаў паявілася поўна зялёнак. І апошнія грыбы вельмі смачныя, калі іх умела падрыхтаваць.

### АПЕНЬКІ САЛЁНЫЯ

Выбраць вялікія апенькі, абрэзаць карэньчыкі, абліць кіпенем і складваць у каменным посудзе, перасыпаючы соллю і пасечанай цыбуляй. Апенькі будуць яшчэ смачнейшыя, калі далажыць крыху рыжыкаў, бо тады будуць мець іх арамат і колер. Накрыць кавалкам чыстага палатна, палажыць драўляны кружок або талерачку і палажыць на гэта камень. Заўсёды зверху павінен знаходзіцца сок, а калі грыбы будуць высыхаць, даліваць крыху вады з соллю. Калі грыбы пачнуць плеснець, збіраць плесень, а анучку мыць. Так падрыхтаваныя апенькі можна падаваць у якасці салаты (лепш перад гэтым яшчэ апенькі падварыць) — пасячы іх, паліць алеем і лімонным сокам. Можна падаваць гэтыя апенькі да салаты з бульбы. Увага! Не даваць занадта многа солі, бо тады апенькі не ўкіснуць, а стануць цвёрдымі.

### САЛАТА З ЗЯЛЁНАК

Старанна памытыя зялёнкі класці ў эмаліраваную каструльку капелюшамі ўніз. Кожны пласт пасыпаць дробна нарэзанай цыбуляй, цукрам і гваздзікай. Паставіць на малы агонь і тушыць (грыбы пусцяць сок). Калі яны будуць мяккія, па смаку дадаць крыху воцату. Вэкаваць.

### КАНІ Ў ЦЕСЦЕ

Памытыя капелюшы каняў абварыць у вадзе, у якую дадаем соль і цукар. Выняць кані друшлаковай лыжкай з вады і палажыць на плоскую талерку, каб астылі. Пасля кожную каню яшчэ пасыпаць соллю і перцам і мачаць капелюшы ў цеста, зробленае з яечка і мукі (крыху гусцейшае, чым смятана). Смажыць на алеі, пасля на кожны капялюш палажыць кавалачак масла.

**Гаспадыня**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




Што ж далі афіцыяльныя аўстрыйскія пошукі, якія праводзіліся ў пэўнай спешцы, таму што яны былі распачаты ў пачатку рана надыходзячай альпійскай зімы?

1. Быў знойдзен труп Эгнера. Анатаміраванне нічога не паказала, хоць і мелася падазрэнне, што ён забіты: сігнальная нейлонавая вяроўка аказалася перарэзанай. Паліцыя хацела дапытаць Фрайбергера і трэцяга ўдзельніка аперацыі Шміда, але яны адмовіліся паўстаць перад аўстрыйскім судом. Дапытаныя ў Заходняй Германіі, яны далі яўна супярэчлівыя паказанні. Фрайбергер гаварыў, што шукаліся сакрэтныя дакументы, а Шмід — золата. Паколькі мюнхенская паліцыя паведаміла, што „справа набывае больш ці менш палітычнае адценне", можна было з упэўненасцю меркаваць, што ў бонскай дзяржаве яна раней ці пазней будзе пакладзена пад сукно.

2. Былі выцягнуты 19 скрынак з фальшывымі англійскімі банкнотамі, а таксама 34 клішэ для іх друкавання.

3. Былі знойдзены далей часткі ракетнага рухавіка, снарады, дэталі розных прыстасаванняў для запуску ракет. Акрамя таго, устаноўлена месцазнаходжанне пад вадой некалькіх ракет і двух вялікіх прадметаў, якія дастаць не ўдалося.

4. У выніку асабістай ініцыятывы антыфашыста Гейнца Рыгеля з Карлсруэ (ФРГ), які выступаў на спецыяльнай прэс-канферэнцыі, аўстрыйскія ўлады ўрэшце-рэшт аказаліся вымушаны прызнаць, што ў горных штольнях у раёне Аўсзее знойдзена яшчэ звыш 1.150 каштоўных карцін з ліку тых, якія былі ўкрадзены нацыстамі з Венгрыі. Толькі пасля гэтага аўстрыйскія ўлады перадалі нарэшце Венгерскай Народнай Рэспубліцы 141 твор мастацтваў украдзеных нацыстамі з венгерскіх музеяў.

Афіцыяльная аперацыя на возеры Топліц працягвалася з 23 кастрычніка па 7 снежня 1963 г. і каштавала прыкладна 200 тысяч марак. Нельга сказаць, што яна аказалася зусім безвыніковай. Але яе арганізацыя была такая, што загадзя можна было меркаваць, што яна прывядзе толькі да частковага поспеху. Тэхнічная аснашчанасць была недастатковай, частка персаналу мела малы вопыт у такіх пошуках. Таму ўдалося абследаваць толькі 12 працэнтаў плошчы возера, якая складае каля 500 тысяч квадратных метраў. Да таго ж падводныя тэлекамеры і зонды выкарыстоўваліся раздзельна, між тым вядома, што толькі іх камбінаванае выкарыстанне можа даць максімальны эфект.

У вадалазаў венскай фірмы „Лесцін унд К°", якая вяла работы на возеры Топліц, раптам вельмі падазрона выслізнула проста з рук і нібыта беззваротна знікла на глеістым дне скрыня, у якой, як у той момант ужо было ўстаноўлена, знаходзіліся дакументы.

У той час як разлаваная выступленнем заходнегерманскага антыфашыста Гейнца Рыгеля на прэс-канферэнцыі аўстрыйская паліцыя выслала яго з Аўстрыі, камісія па правядзенню работ на возеры Топліц дапусціла ў якасці „афіцыяльных назіральнікаў" толькі двух іншаземцаў. Гэта былі служачыя баварскай паліцыі, гэта значыць, прадстаўнікі Бона.

Оберштурмбанфюрэр СС Ота Скарцэні, якога афіцыяльна шукала аўстрыйская паліцыя, пакінуў сваё іспанскае прыстанішча. Як паведамлялася, у гэты час яго бачылі ў Зальцбургу (Аўстрыя). Былы эсэсаўскі афіцэр Макс Грубер, які, паводле яго прызнання, удзельнічаў у аперацыі па затапленню ў возеры Топліц нацысцкіх каштоўнасцей і дакументаў, раптам абвергнуў свае ўласныя паказанні, дадзеныя ім аўстрыйскай паліцыі. Замежныя карэспандэнты, якія сустрэліся з Груберам, знайшлі яго зусім запалоханым.

Прымаючы пад увагу ўсе гэтыя акалічнасці, зразумелы той уздых палёгкі, з якім рэакцыйная заходнеберлінская газета „Дэр абенд" заявіла 2 снежня 1963 г.: „У выніку 35-дзённых пошукаў легенда аб скарбах возера Топліц развеяна".

Трэба адзначыць, што ў аўстрыйскіх пошуках, безумоўна, было многа неда-

